ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 76 (1610) | Аўторак, 26 верасня 1961 года | Цана 4 кап.


## Сёння ў сталіцы рэспублікі Мінску пачынае сваю работу XXV з'езд Камуністычнай партыі Беларусі.

## ШЧЫРАЕ ПРЫВІТАННЕ ДЭЛЕГАТАМ З'ЕЗДА!



Міне яшчэ дзесяць-дваццаць год... Якой будзе наша сталіца, наша рэспубліка? Праект Праграмы КПСС адкрывае шляхі ў блізкае камуністычнае заўтра. Пра гэта думае дэлегат XXV з'езда Кампартыі Беларусі токар рамонтна-механічнага цэха Мінскага завода запасных частак Віктар Васільевіч Каровушкін.

Фота С. Чырэшкіна.

# СВЕТЛЫ ЛЁС

КОЖНЫ НАРОД, як і кожны чалавек, мае свой лёс, свае шляхі ў гісторыі. У дні знамянальных падзей у жыцці народа чалавеку прыгадваюцца гэтыя шляхі, ён з асаблівым пачуццём думае аб гісторыі сваёй краіны, успамінае пражытае, аддаецца марам аб будучыні.

Набліжаецца XXII з'езд КПСС. А сёння ў Мінску пачынае сваю работу XXV з'езд Кампартыі Беларусі. У святле гэтых падзей радасна бачыць маладое аблічча нашай рэспублікі, радасна ўсведамляць, які вялікі і слаўны шлях прайшла яна.

Гэты шлях вымяраецца не гадамі, бо гадоў мінула не так і шмат, а сапраўды гіганцкімі зрухамі ў эканоміцы, культуры, у свядомасці людзей.

Шлях ад цемры да святла. Шлях ад страшэннай адсталасці да прагрэсу.

Чым ты была, Беларусь мая родная, —  
Хіба ж не бачылі нашыя вочы?  
Вечна абдзёртая, вечна галодная,  
Сонца не ведала, а толькі ночы...

У гэтых купалаўскіх радках — мінулае нашага краю. Шматвяковае, шматпакутнае мінулае. І «свае» і чужыя эксплуататары прыгняталі працоўных, рабавалі беларускую зямлю. Народ паўставаў, народ змагаўся. Але свабоду ён здабыў толькі тады, калі даверыў свой лёс партыі камуністаў, ленінскай партыі. Яна — авангард, яна — мудры кіраўнік.

Праз нечуваныя выпрабаванні прайшла Савецкая краіна, і гэтыя выпрабаванні пацвердзілі вялікую сілу партыйнага кіраўніцтва, неадольнасць народа, на чале якога стаіць такая партыя.

Цяжкія гады грамадзянскай вайны, калі маладой Савецкай краіне даводзілася адбівацца ад шматлікіх полчышчаў інтэрвентаў і ўнутранай контррэвалюцыі. Індустрыялізацыя краіны. Калектывізацыя сельскай гаспадаркі. Здзяйсненне культурнай рэвалюцыі. Высока і ўсюды, з краю ў край, узнімаліся рыштаванні сацыялізма... А потым — нямецка-фашысцкае нашэсце. Пасляваеннае аднаўленне народнай гаспадаркі...

Усё гэта — вялікія этапы вялікіх перамог, і на ўсіх гэтых этапах народ ішоў за роднай партыяй.

Сёння Савецкая краіна — перадавая дзяржава з магутнай індустрыяй і калектыўнай сельскай гаспадаркай. Сёння Савецкая краіна — светач сацыялістычнай культуры, у якой увасоблены самыя высакародныя, самыя светлыя і гуманныя ідэалы, блізкія і дарагія ўсяму прагрэсіўнаму чалавецтву.

Сацыялістычная культура — неацэнны здабытак усіх братніх народаў, з'яднаных у непарушнай сям'і — Савецкім Саюзе. Вялікі ўклад у развіццё сацыялістычнай культуры ўнёс і ўносіць беларускі народ. Беларуская літаратура, беларускае мастацтва дасягнулі значных поспехаў. Беларусь сёння — гэта рэспубліка школ, інстытутаў, палацаў культуры, навуковых устаноў, рэспубліка, дзе квітнее прафесіянальная і народная мастацкая творчасць. Ва ўсе куткі неабсяжнай савецкай зямлі і на прасторы многіх краін свету ідуць сёння дужыя беларускія аўтамабілі і трактары. І поруч з імі далёка ў свет ідзе беларуская песня. Яны горда нясуць славу свайго працавітага народа, веліч нашых поспехаў у будаўніцтве новага жыцця.

Гэтыя поспехі велізарныя, заўтра яны будуць яшчэ большыя. XXV з'езд Кампартыі Беларусі прадэманструе волю камуністаў і ўсіх працоўных рэспублікі заваёўваць новыя і новыя рубяжы камуністычнага будаўніцтва. Мы ведаем, якія вялікія задачы стаяць перад намі. Мы ведаем, што ў развіцці эканомікі і культуры рэспублікі ёсць яшчэ шмат і недахопаў. Пад кіраўніцтвам Кампартыі Беларусі — аднаго з баявых і надзейных атрадаў Камуністычнай партыі Савецкага Саюза — беларускі народ упэўнена будзе ісці да новых вышынь, перамагаючы недахопы і цяжкасці, памнажаючы свае дасягненні.

Праект новай Праграмы КПСС, які знаходзіць гарачае ўсенароднае адабрэнне, адкрывае грандыёзныя перспектывы далейшага росквіту народнай гаспадаркі і культуры ўсіх савецкіх рэспублік, у тым ліку і Беларусі. Гэта праграма камунізма, праграма стварэння ў нашай краіне самага справядлівага, самага высакароднага грамадскага ладу.

У цяперашні час, у перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма, ствараюцца яшчэ больш дабратворныя ўмовы для ўсебаковага росквіту савецкай многанацыянальнай культуры. Культурнае развіццё ў гэты перыяд з'явіцца завяршаючым этапам вялікай культурнай рэвалюцыі.

Ад культурнага росту насельніцтва, як аб гэтым гаворыцца ў праекце Праграмы КПСС, у велізарнай ступені залежыць уздым прадукцыйных сіл, прагрэс тэхнікі і арганізацыя вытворчасці, павышэнне грамадскай актыўнасці працоўных, развіццё дэмакратычных асноў самакіравання, камуністычная перабудова быту.

Са старонак праекта Праграмы КПСС паўстае веліч камуністычнай культуры:

«Культура камунізма, якая ўвабрала ў сябе і развівае ўсё лепшае, што было створана сусветнай культурай, — новая, вышэйшая ступень у культурным развіцці чалавецтва. Яна ўвасобіць у сабе ўсю мнагастайнасць і багацце духоўнага жыцця грамадства, высокую ідэйнасць і гуманізм новага свету. Гэта будзе культура бяскласавага грамадства, агульнанародная, агульначалавечая».

У дружнай сям'і савецкіх народаў стварае гэтую культуру і беларускі народ. Ён самааддана працуе на заводах, фабрыках, у калгасах і саўгасах. Ён няспынна вылучае з свайго асяроддзя таленавітых вучоных і пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў, артыстаў. Ён будуе гіганты сямігодкі і тэатры, клубы і дзіцячыя сады, пракладвае дарогі і асушае балоты.

Цудоўная яго ява, ясная яго будучыня. Шчаслівы лёс беларускага народа. Лёс, які навекі знітаваны з лёсам братніх савецкіх народаў.

І ў гэтыя дні натхнёнага ўздыму і ўсенароднага энтузіязму кожны работнік беларускай культуры, радуючыся за светлы лёс свайго народа, дае народу і сабе зарок яшчэ больш натхнёна і страсна служыць камуністычнай справе, аддаваць усе свае сілы, увесь запал сэрца будаўніцтву камунізма — усталяванню на зямлі Міру, Працы, Свабоды, Роўнасці і Шчасця ўсіх народаў.

Алесь ЗВОНАК

## МЫ, ПАРТЫЯ, З ТАБОЙ

Тваім агнём нязгасным свет асвечан,  
Твой голас родзіць водгулле наўсцяж!  
Усёю сілай мыслі чалавечай,  
Усёй гарачай сілай пачуцця,  
Сваім сумленнем, сэрцам і душой  
Мы, Партыя, з табой!

Цвярдзей наш горды поступ год ад году,  
Ясней наш зрок, спрытней работа рук!  
Ты плоць і кроў, душа і мозг народа,  
Зара надзей, жыцця нястрымны рух!  
Паклічаш ты на свята ці на бой —  
Мы, Партыя, з табой!

Праграмай шчасця годнасць чалавека  
Ты да вышынь нязнаных узняла.  
Мы йдзём — і ў твар нам вее вецер веку  
Струменнем чыстым сонца і цяпла.  
У працы, ў шчасці, ў радасці жывой  
Мы, Партыя, з табой!

Пакуль святло лье сонца з небасхілу,  
Пакуль сінее неба над зямлёй,  
Не разамкнуць ніякім чорным сілам  
Табой з'яднаны непахісны строй.  
Нас асяняе сцяг высокі твой, —  
Мы, Партыя, з табой!

Няма на свеце справы больш пачэснай,  
Як спраўдзіць мары светлыя твае,  
Праграма шчасця й міру! Ты, як песня,  
З якою люд на бітву паўстае.  
І нібы гром грукоча над зямлёй:  
Мы, Партыя, з табой!

# КАМУНІСТЫ

Георгій ПАПОЎ

Камуністы...

Я напісаў гэтае слова — і перад вачыма паўсталі знаёмыя твары. Твары людзей, якія беражліва захоўваюць ля сэрца тоненькія чырвоныя кніжачкі.

Памятаю, у маленстве нас, хлапчукоў, пасылалі «славіць хрыста», гэта значыць — хадзіць з дому ў дом і спяваць малітву, сэнс якой ніхто з нас не разумеў.

Аднойчы мой старэйшы брат, камуніст, удзельнік грамадзянскай вайны, сказаў:

— Праспявай «Інтэрнацыянал» — гэта куды лепш!

«Інтэрнацыянала» я тады не ведаў і праспяваць яго, зразумела, не змог. Але з таго часу пачаў глядзець на камуністаў, як на людзей, якія не прызнаюць бога.

Пазней, калі пайшоў вучыцца, я даведаўся, што гэта праўда, але яшчэ не ўся праўда. Камуністы — гэта людзі, якія ўстанавілі новую ўладу, перадалі заводы рабочым, а зямлю — сялянам, адкрылі для нас, дзяцей, школы. Значыць, яны хочуць, каб усім, хто працуе, добра жылося на зямлі.

Я інакш глянуў і на старэйшага брата, бо праз яго, камуніста, і сябе адчуў далучаным да вялікай арміі пераўтваральнікаў жыцця.

Потым праз колькі год пачалася вайна, доўгая і жорсткая, самая жорсткая з усіх войнаў, якія толькі ведала гісторыя. Спачатку мы адступалі, а потым з боем бралі свае ж — савецкія — гарады, вёскі, вышыні.

У дні адступлення абстаноўка на фронце мянялася амаль кожную гадзіну. Памятаю, аднойчы нас, камуністаў і камсамольцаў, сабраў камісар. Справа была ноччу дзесьці на паўдарозе паміж Ржэвам і Старыцаю.

— Гранаты ёсць? Патроны? Так... Старыца ўжо занята немцамі. Пойдзем у абход. Так... Задача ясная? Камуністы і камсамольцы павінны даваць прыклад...

І камуністы давалі прыклад.

Ля вёскі Краснова, што пад Калініным, быў цяжка паранены камбат. У радах чырвонаармейцаў наступіла замяшанне. І тады наперад вырваўся Валодзя Лявіцкі, камуніст, ураджэнец вёскі Дукора, што на Міншчыне.

Праз тыдзень, калі Валодзя Лявіцкі адным з першых у дывізіі быў узнагароджан медалем «За адвагу», мы сядзелі з ім у цеснай зямлянцы, у двухстах метрах ад пярэдняга краю, і вялі сяброўскую гутарку. Мне хацелася даведацца аб падрабязнасцях подзвігу. А ён, грэючы рукі ля печкі, раптам загаварыў пра Дукору, што засталася ў тыле ворага.

— Маці ў мяне там... Цяжка ёй цяпер, горка... Як думаеш, га?

Камуністы...

Яны цэментавалі нашу армію, падтрымлівалі і ўзнімалі яе баявы дух. На фронце партыя траціла сотні і тысячы сваіх сыноў — і тады на іх месца станавіліся другія. І яны працягвалі весці за сабою беспартыйных. Стаць членам партыі, камуністам — гэта было запаветнай марай многіх франтавікоў. Іменна ў тыя гады стаў членам партыі і я, у мінулым — піянер, камсамолец...

Гады тры назад давялося мне гутарыць з Андрэем Трафімавічам Шакурам, старшынёю калгаса «Чырвонаармеец», што на Мсціслаўшчыне. Ён расказваў:

— Я камандаваў разведротаю, быў паранены некалькі разоў, але, здаецца, ніколі яшчэ так не хваляваўся, як у той дзень, калі атрымліваў партыйны білет. Ніякай урачыстасці, усё будзённа проста, а чалавек узрушаны...

Гэты момант праз усё жыццё будзе ў памяці, у сэрцы. Начальнік палітаддзела працягвае тоненькую кніжачку, якая пераліваецца пурпуровым глянцам, і ўсміхаецца лагоднай усмешкай. Бачыць хваляванне і, здаецца, яго позірк гаворыць: «Нічога, гэта добра, сам атрымліваў, ведаю».

Назад у батальён ляціш нібы на крылах. Яшчэ ўчора ты быў такім, як усе, а сёння ў тваё жыццё ўварвалася нешта новае, вялікае, неабдымнае. Цяпер ты такі, як усе, і не такі, таму што стаў камуністам і, значыць, абавязаны быць лепшым і рабіць больш.

Камуністы, гаворачы словамі нашага камісара, даюць прыклад сумленнага, бескарыслівага служэння народу, Радзіме. Усё — народу, усё — для народа, — такі іх дэвіз. І ў гэтым, думаецца мне, разгадка таго, чаму партыя — наша ленінская партыя — з'яўляецца такой вялікай прыцягальнай сілай. Лепшыя з лепшых сыноў і дочак народа аддаюць ёй сваю працу, свае клопаты, свае сэрцы.

Пасля вайны мне давялося часта ездзіць. Я пабываў у многіх раёнах нашай рэспублікі, на Украіне і Каўказе, у Краснаярскім і Алтайскім краях. І ўсюды — у кожным калгасе і саўгасе, на кожным заводзе і кожнай новабудоўлі — я сустракаў сяброў па саюзу аднадумцаў-камуністаў, занятых вялікімі справамі.

Гэта ім, у першую чаргу ім, камуністам, верным праваднікам палітыкі партыі, наша краіна абавязана сваім небывалым росквітам. Змяніўшы гарматы і танкі на трактары, на станкі і экскаватары, яны самі пайшлі далей, па шляху, завешчаным Леніным, і павялі за сабою іншых.

З той пары мінула не так ужо многа часу, усяго шаснаццаць год, а паглядзіце, як усё змянілася навокал!

Мы жылі і працягваем жыць барацьбою за сталь і хлеб, за станкі і нафту, за машыны і тканіны, барацьбой за багацце. І ў гэтай барацьбе, як на фронце, нараджаюцца сапраўдныя героі. Імёны Лідзіі Асіюк, Фёдара Алексіевіча, Кірыла Арлоўскага, дзесяткаў і соцень іншых працаўнікоў-камуністаў стаяць сёння ў адной шарэнзе з імёнамі Юрыя Гагарына і Германа Цітова.

Сёлетні год для нас асабліва знамянальны. У канцы ліпеня і пачатку жніўня ў газетах былі апублікаваны праекты Праграмы і Статута Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, якія абвясцілі аб паваротным моманце ў гісторыі нашай і не толькі нашай краіны. Пытанне аб паступовым пераходзе ад сацыялізма да камунізма перастала быць пытаннем тэарэтычным, яно стала канкрэтнай справай мільёнаў працаўнікоў адной шостай часткі нашай планеты, справай іх рук, іх розуму і сумлення.

У праекце Праграмы, якая будзе прынята XXII з'ездам КПСС, вызначаны маральны кодэкс будаўнікоў камунізма. Гэта, у прыватнасці, адданасць справе камунізма, добрасумленная праца на карысць грамадства, калектывізм і таварыская ўзаемадапамога, гуманныя адносіны і ўзаемная павага паміж людзьмі, сумленнасць і праўдзівасць, маральная чысціня, прастата і сціпласць у грамадскім і асабістым жыцці, дружба і братэрства ўсіх народаў СССР, непрымірымасць да нацыянальнай і расавай непрыязнасці... Гэтымі высакароднымі рысамі якраз і вызначаюцца камуністы, людзі высокага абавязку і высокай маральнай чысціні і сумлення. Іменна гэтыя рысы, гэтыя якасці і дазваляюць ім заваёўваць сімпатыі таварышаў па працы, арганізоўваць і згуртоўваць іх, накіроўваць іх намаганні на дасягненне нашай агульнай мэты. Як і ў гады вайны, камуністы цяпер — там, дзе больш цяжка, дзе патрэбна поўная аддача сіл, душэўнае напружанне і сапраўдная мужнасць.

Сёлета ўлетку я пазнаёміўся з Яўгеніем Мікалаевічам Місюком, старым камуністам, ураджэнцам вёскі Лукашы Кобрынскага раёна. Справа была ў Дзіўнагорску, што вырас і працягвае бурна расці на правым беразе Енісея, у пяці кіламетрах ад таго месца, дзе ўзводзіцца буйнейшая ў свеце Краснаярская ГЭС.

Яўгеній Мікалаевіч, не па гадах дужы стары, з цёмнымі, густа пасярэбранымі валасамі, глядзеў прыжмурыўшыся на гэтыя горы і расказваў пра сваё жыццё.

А жыццё ў яго было нялёгкае. Пры цары працаваў на чыгунцы, потым, пасля рэвалюцыі, уступіў у камсамол і пайшоў працаваць у органы ЧК. Скончыў вышэйшую кавалерыйскую школу і некалькі год служыў у Чырвонай Арміі. Потым будоўлі, будоўлі... Будаваў гідрастанцыі на Свіры, на Волзе, нарэшце, дабраўся да бацюхны-Енісея... Выхаваў шасцёра сыноў і дочак і, апроч таго, сёмую прыёмную... І ўсе працуюць, сталі камуністамі і камсамольцамі. Толькі малодшая, прыёмная, яшчэ піянерка.

— Вось пабудуем гэтую, — ён кіўнуў у бок, адкуль даносіўся гул экскаватараў і бульдозераў, — і канец. Кропка. Пайду на пенсію.

— А цяжка, напэўна, вось так ездзіць усё жыццё з краю ў край? — спытаў я нібы між іншым.

— Цяжка? А чаму цяжка? — ён памаўчаў крыху, усміхнуўся ў вусы і ўздыхнуў. — Бывала, вядома, і цяжка, што таіцца. Ні хаты табе, ні гароду. Толькі абжыўся, зноў збірай манаткі, цягніся нямаведама куды. Але ж трэба, вось у чым пытанне! А калі трэба, дык якая можа быць гаворка! Вы камуніст? Ну вось... Павінны разумець, што за нас гэтага ніхто не зробіць. Узяўся за гуж, не кажы, што нядуж... Затое колькі зроблена, як азірнешся назад! «Свір-2», «Свір-3», Сталінградская і вось цяпер Краснаярская... Ці жарты! Мімаволі заганарышся!

Апошнія словы ён вымавіў з усмешкаю: маўляў, не прымайце за чыстую манету! А мне падумалася, што ў тым, што ён, камуніст, ганарыцца справамі рук сваіх, няма нічога дрэннага. І яшчэ падумалася аб тым, колькі трэба мець душэўнай мужнасці, каб вось так, як Яўгеній Мікалаевіч Місюк, усё жыццё падпарадкаваць не асабістаму жаданню, а волі партыі, абавязку перад партыяй!

І такія ўсюды яны, камуністы, — на Брацкай ГЭС і Полацкім нафтаперапрацоўчым заводзе, на Сарбайскім рудным гіганце і Старобінскім калійным камбінаце, на Курскай магнітнай анамаліі і Бярозаўскай электрастанцыі, — ва ўсіх кутках зямлі савецкай, на ўсіх заводах і фабрыках, у калгасах, саўгасах, інстытутах і лабараторыях.

Сёння, у дзень адкрыцця XXV з'езда Кампартыі Беларусі, я зноў і зноў думаю пра камуністаў. Пра тых, хто працягвае ствараць выдатныя машыны, вядомыя далёка за межамі нашай краіны, убіраць збожжа і араць зямлю. Я думаю пра камуністаў краін народнай дэмакратыі — іх мільёны, — людзей, якія будуюць сацыялістычнае грамадства. Я думаю і пра камуністаў капіталістычных краін, якім даводзіцца працаваць у цяжкіх, неймаверна цяжкіх умовах. Усе разам яны складаюць вялікую армію Маркса і Леніна, армію, якая мае за сабою незлічоныя рэзервы і таму непераможная. Дзеці сваіх народаў, яны стойка змагаюцца за мір, дэмакратыю і сацыялізм, за шчасце ўсіх, хто здабывае хлеб надзённы ўласнымі рукамі. Інтэрнацыяналісты па духу свайму, яны жывуць інтарэсамі ўсяго чалавецтва і для чалавецтва.

Сто з лішнім год назад Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс пісалі:

«Здань блукае па Еўропе — здань камунізма».

У наш час ужо не здань камунізма, а сам камунізм пераможна крочыць па зямлі. Больш мільярда жыхароў нашай планеты аб'ядналіся пад сцягам Маркса — Энгельса — Леніна.

Сёння, у дзень адкрыцця з'езда Кампартыі рэспублікі, я думаю аб Леніне, найвялікшым з камуністаў. Ленін... Ён заўсёды і ўсюды з намі, яго неўміручае вучэнне, яго мудрыя запаветы жывуць у справах і працы савецкага народа, народаў іншых сацыялістычных краін. Духам ленінізма прасякнуты праекты Праграмы і Статута Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, якія стаяць на парадку дня XXV з'езда Кампартыі Беларусі і прадстаячага XXII з'езда КПСС. Пад кіраўніцтвам камуністаў-ленінцаў наша Радзіма прайшла вялікі, слаўны шлях. Гэта шлях ад драўлянай сахі і бараны — да магутных трактараў і камбайнаў, ад лучыны, якая выядала вочы, — да электрычнасці, ад цемры і непісьменнасці — да вяршынь чалавечых пазнанняў, што дапамагаюць жыць, змагацца і перамагаць. Пад кіраўніцтвам камуністаў-ленінцаў наша Радзіма пойдзе да поўнай перамогі камунізма.

## ГМАХ ЗА ГМАХАМ



Расце мікрараён па Сталінградскай вуліцы ў Мінску...

З блакнота мастака Яўгена САНЬКО.

## КВАРТАЛ ЗА КВАРТАЛАМ



